//////////////////////////////////////////////////////

# Студэнцкі Кліч!

//////////////////////////////////////////////////////

Орган Беларускага Студэнцкага Згуртаваньня – Мюнхэн
Часопіс студэнцкае моладзі. Выходзіць на правох рукапісу.

Год III. Нр.8/17 Кастрычнік 1947. Цана 5 НМ.

THE NEW YORK PUBLIC LIBRAR

## НА ПЯРЭДАДНІ ЗЬЕЗДУ.

/Справаздачу са зьезду глядзі ў наступным лістападавым нумары./

Як мы ўжо паведамлялі ў папярэднім нумары нашага часопісу, у днях 1-2 лістапада ў Марбургу адбудзецца Агульны Студэнцкі Зьезд дэлегатаў, тэарэтычна бяручы, ад усіх беларускіх студэнцкіх арганізацыяў за межамі Бацькаўшчыны, практычна-ж – перадусім дэлегатаў ад нашых студэнцкіх арганізацыяў трох заходніх зонаў Нямеччыны. Аб патрэбе такога зьезду гаварыць ня прыходзіцца. Як-бы добра ні працавалі нашыя мясцовыя арганізацыі, яны павінны мець свой цэнтр, які-б каардынаваў працу гэтых арганізацыяў, разглядаў іх узаемадачыненьні, дапамагаў адхіляць узьніклыя ў часе практычнай працы цяжкасьці. Гэтым цэнтрам у нас зьяўляецца Цэнтраля Беларускіх Студэнцкіх Арганізацыяў на Чужыне з сядзібай у Марбургу. Адным са сродкаў цэнтру даведацца аб цяжкасьцях у працы паасобных мясцовых арганізацыяў і кіраваць гэтай працай ёсьць скліканьне перыядычна, ад часу да часу, студэнцкіх зьездаў, на якіх, прыбылыя ад усіх нашых мясцовых арганізацыяў, дэлегаты змогуць: з аднаго боку, падзяліцца досьледам гадавое працы ў сваіх арганізацыях, з другога боку – разважыць спосабы і напрамкі, у якіх павінна пайсьці праца іх арганізацыяў на бліжэйшую будучыню.

Што практыка арганізацыйнай працы зьездамі цалкам апраўдала сябе, гэта мы бачым з вялікай колькасьці зьездаў, якія адбыліся і адбываюцца ў бягучым годзе ў нямецкім студэнцкім жыцьці і з друкаваных у студэнцкай прэсе справаздачаў з гэтых зьездаў, у якіх мы знойдзем шмат пастановаў, прапановаў, заклікаў, маючых на мэце палепшыць акадэмічнае жыцьцё нямецкіх вышэйшых навучальных установаў. Крытыка гэтая і гэтыя прапановы, бясспрэчна, будуць улічаны адпаведнымі дзейнікамі кампэтэнтнымі ў справе гэтых пытаньняў. Зьезд – гэта ёсьць адзін са сродкаў дэмакратычнага самаўзгадаваньня студэнцкае моладзі. Бяручы ўдзел у працы зьезду, мы вучымся ў агульнапрынятай у дэмакратычным сьвеце форме коратка і выразна выказваць свае думкі, шанаваць думкі іншых і калі і спрачацца, дык, прынамся, у культурнай форме.

А трэба прызнацца, што гэтага ў нас часам не хапае. Здараецца, што мы гаворым шмат і квяціста, быццам-бы не патое каб выказаць сваю думку, а патое, каб паказаць, як прыгожа мы ўмеем гаварыць. Часам мы выказваем сваю думку ў аўтарытатыўнай, не цярпячай супярэчаньня форме, акрэсьліваючы ўсякі, яшчэ нават нам ня ведамы супраціў, як выраз несьвядомасьці ці, нават, злое волі. У такім выпадку прамоўца, вычарпаўшы ўсе аргументы на абарону свае тэзы, як канцовы, самы моцны – кідае: не пагадзіцца з ягоным цьверджаньнем можа толькі цёмны, нясьведамы элемэнт або здраднік. На такое *dictum*, калі і знойдуцца інакш думаючыя, выказаць сваю думку адважацца толькі выразна азначаныя індывідуальнасьці.

Шкоднае гэтае зьявішча, аб якім ня можна не ўспамянуць гаворачы аб зьездах, выплывае з нашае недастатковае ўзгадаванасьці ў дэмакратычным духу.

Ды-й нічога дзіўнага. Большасьць з нас гэта моладзь у веку да 25

год.Калі ўлічыць,што праз апошнія 7 год / перыяд,у якім найбольш расьце і дазравае інтэлектуальна чалавек ляжыць паміж 13 - 20 гадамі жыцьця/ мы расьлі ў атмасфэры,спачатку бальшавіцкага,а потым гітлероўскага аўтарытатызму,несьвядома ўспрыймаючы ўсе яго пярэчачыя дэмакратызму асаблівасьці,дык будзе зусім зразумела,чаму ў нас і дагэтуль прабіваюцца гэтыя асаблівасьці.

Недахопаў гэтых мы можам і павінны пазбыцца.У гэтым нам дапаможа нашае арганізацыйнае сяброўскае жыцьцё,супольнасьць нашых мэтаў і супольная добрая воля шуканьня шляхоў іх асягненьня,у гэтым нам дапаможа сяброўскае самаўзгадаваньне,якое асягаецца праз рачовы абмен думак на сяброўскіх сходах,нарадах,дыскусыйных спатканьнях.Калі-ж мы ў цесным коле нашае арганізацыі,варачыся як кажуць ува ўласным саку,затыхаемся ня могучы знайсьці выхаду,абмен думак на шырэйшай арэне ў кантакце са сьвежымі людзьмі дапаможа нам выйсьці з цяжкога палажэньня.Для арганізацыі,што знайшлася-б у такім становішчы,Агульны студэнцкі зьезд зможа,бясьпярэчна,прынесьці многа карысьці.

З праграмы Агульнага Студэнцкага зьезду,што мае адбыцца ў Марбургу / гл. ніжэй/ відаць,што запланованы ён паважна і ўсебакова.Як і трэба было-б спадзявацца,на парадку дня знайшліся перадусім канкрэтныя пытаньні нашага арганізацыйнага жыцьця,як напр.: справаздача з дзейнасьці ураду ЦБСА,справаздачы з мясцоў,зачытаньне праекту статуту Беларускага Студэнцкага Стыпэндыяльнага Фонду,выбары новага ураду ЦБСА.Упэсльная вага гэтых пытаньняў у праграме зьезду паказвае,што цяперашні урад ЦБСА, склікаючы зьезд,мае на мэце надаць яму характар рачова-студэнцкі,пазытыўна-творчы.Такім,зрэштай,і павінен быць гадавы зьезд ЦБСА.

Нацыянальна-ўзгадавачы бок зьезду дапаўняюць 2 рэфераты.У дыскусіі ўдзельнікі зьезду будуць мець магчымасьць выказаць свае думкі адносна парушаных у рэфератах пытаньняў.Рэферат сп.Др.Ст.Станкевіча на тэму "Беларуская літаратура ў яе гістарычным разьвіцьці",які мае быць прачытаны на нямецкай мове для студэнтаў марбурскага унівэрсытэту,бясьпярэчна, прычыніцца моцна да папулярызацыі нашае нацыянальнае справы перад чужынцамі.Гэтай-жа мэце будзе служыць і банкет з удзелам прадстаўнікоў,прафэсароў і студэнтаў марбурскага унівэрсытэту і прадстаўнікоў чужынецкіх студэнцкіх арганізацыяў у Марбургу.

Наагул,цэласьць праграмы стварае ўражаньне,што зьезд здолее ўнесьці шмат новага,пазытыўнага ў нашае арганізацыйнае студэнцкае жыцьцё.

Як даведваемся,на зьезд у якасьці гасьцей запрошаны цэлы шэраг прадстаўнікоў нашых грамадзкіх арганізацыяў на чужыне і паасобных прадстаўнікоў нашае інтэлігенцыі.Сярод іх мы напэўна пабачым старых дзеячоў Беларускага Студэнцкага Саюзу ў Вільні,якія,як старэйшыя калегі,радай дапамогуць нам перамагаць,так густа напатыканыя ў варунках выгнаньня, цяжкасьці.Такім чынам,зьезд павінен зацясьніць кантакт паміж беларускім грамадзтвам на эміграцыі і студэнцтвам.Для нас - студэнтаў гэта зьяўляецца жыцьцёва неабходным,бо беларускае хоць і беднае грамадзтва зьяўляецца нашай адзінай маральнай і матар'яльнай падтрымкай.З другога боку,зацясьненьне лучнасьці дасьць магчымасьць нашаму грамадзтву на чужыне,без розьніцы палітычных угрупаваньняў і поглядаў,бліжэй пазнаць нас і ацаніць: наколькі варты мы,як будучая зьмена беларускай інтэлігенцыі на чужыне,сяньня іхняй дапамогі і падтрымкі.Мы ўпэўнены : ацэнка гэтая ня будзе дрэннай,пад варункам,што яна наступіць не з пункту гледжаньня тэй ці іншай палітычнай плятформы,а з аб'ектыўнага пункту гледжаньня - дабра беларускае справы.Нам выдаецца,што толькі з гэтага пункту гледжаньня ацэнка можа быць правідловай,а ўсякае перадчаснае ўводжаньне ў нашыя шэрагі элемэнту барацьбы,тварэньне фракцыяў існуючых у старэйшым грамадзтве партыяў,распыляючы ў дробнай сварцы нашыя,і без таго слабыя сілы,прыносіла-б толькі шкоду справе нацыянальнага ўзгадаваньня беларускага студэнцтва на эміграцыі.

Леташні зьезд,што адбыўся ў Мюнхэне,праз стварэньне Цэнтралі Беларускіх Студэнцкіх Арганізацыяў на Чужыне,зьвязаў арганізацыйна дзьве, найраньней створаныя пасьля другое сусьветнае вайны,беларускія студэнц-

кія арганізацыі за межамі бацькаўшчыны: марбурскую і мюнхэнскую. Сёлета мы пабачым на зьезьдзе, пэўна, прадстаўнікоў новых арганізацыяў, якія паўсталі на працягу гэтага году. Гэта будзе показам росту нашага студэнцкага арганізацыйнага жыцьця. З імі разам мы абгаворым вынікі мінулага году працы і накрэсьлім шляхі, якімі окіруем далей нашыя студэнцкія арганізацыі за межамі бацькаўшчыны.

Клопат аб будучыні Беларусі, жаданьне служыць Ей і воля змагацца за ~~ле нікай прысьвячаюць другому Агульнаму Студэнцкаму Зьезду у ягонай працы.~~

Дэлегацыя Беларускага Студэнцкага Згуртаваньня ў Мюнхэне выжыдае на зьезд з добрай воляй і цьвёрдым рашэньнем узяць у працы зьезду актыўны ўдзел і сваім становішчам умажлівіць зьезду як найбольш пасьпяховую працу.

М.Паўловіч.

---:::X:::---

## П Р А Г Р А М А.

### Агульнага Студэнцкага Зьезду ў Марбургу

### у днях 1 і 2 лістапада 1947.

1.лістапада.

1.Адчыненьне зьезду - старшыня ЦБСА.
2.Выбары прэзыдыюму зьезду.
3.Справаздача з дзейнасьці ураду ЦБСА і Беларускага Студэнцкага Стыпэндыяльнага Фонду.
4.Справаздача рэвізыйнай камісіі.
5.Справаздачы з мясцоў.
6.Дыскусія.
7.Зачытаньне праекту статуту БССр.
8.Дыскусія і прыняцьце статуту.
Абедні перапынак ад 13 да 14 гадз.
У 19 гадз. банкет з удзелам прадстаўнікоў прафэсароў і студэнтаў марбурскага унівэрсытэту і прадстаўнікоў чужынецкіх [illegible] студэнцкіх арганізацыяў у Марбургу. На праграму банкету прадбачваецца: супольная вячэра, мастацкія выступы БСЗ у Марбургу і танцы.

2.лістапада.

9.Даклад на тэму: "Студэнцтва і нацыянальны рух".
10.Дыскусія на зачытаную тэму.
11.Справа пераняцьця церав ЦБСА актываў і пасываў АБСА.
12.Выбары новага ураду ЦБСА.
13.Бягучыя справы.
14.Зачыненьне зьезду
Абедні перапынак ад 13 да 14 гадз.
20 г. Даклад Сп.Ёр.Станкевіча на тэму: "Беларуская літаратура у не гістарычным разьвіцьці" у салі марбурскай кансэрваторыі на нямецкай мове для студэнтаў марбурскага унівэрсытэту і мастацкія выступы БСЗ у Марбургу.

Урад ЦБСА.

THE NEW YORK PUBLIC LIBRARY

---:::X:::---

/З огляду на тое,што гэты нумар выходзіць са значным апазьненьнем,маем магчымасьць ужо цяпер зьмясьціць частку матар'ялаў з Агульнага Студэнцкага Зьезду ў Марбургу. Ніжэй зьмяшчаем пратакол рэвізійнай камісіі ЦБСА.Рэшту матар'ялаў са зьезду глядзі ў наступным нумары./

Рэдакцыя.

# ПРАТАКОЛ

рэвізіі дзейнасьці Ураду Цэнтралі Беларускіх Студэнцкіх Арганізацыяў на Чужыне за час ад Іо кастрычніка 1946 г. да 31 кастрычніка 1947 году праведзенай Рэвізійнай Камісіяй ЦБСА дня 31 кастрычніка 1947 г.

Дня 31 кастрычніка 1947 году Рэвізійная Камісія Цэнтралі Беларускіх Студэнцкіх Арганізацыяў на Чужыне зрабіла рэвізію працы Ураду ЦБСА за справаздачны пэрыяд.

Рэвізія палягала на абзнаямленьні:

І.у галіне агульнай дзейнасьці з:
а.сшыткам выходзячай карэспандэнцыі,які абымае 276 пазыцыяў,
б.сшыткам увайходзячай карэспандэнцыі - 90 пазыцыяў,
в.сшыткам пратаколаў,зьмяшчаючым агулам 4 пратаколы,з таго І пратакол арганізацыйнага зьезду ЦБСА і 3 пратаколы пасяджаньняў Ураду ЦБСА,
г.сшыткам прыйма студэнтаў - 44 пазыцыі і
д.сшыткам заяваў у справе вакацыйнае практыкі з 7 пазыцыямі.
2.у галіне фінансавай дзейнасьці па ЦБСА агулам:
а.касавае кнігі і
б.кнігі прыбыткова-выдатковых дакумантаў - 22 дакуманты.
3.у галіне фінансавай дзейнасьці па Беларускім Студэнцкім Стыпэндыяльным Фондзе ЦБСА:
а.касавое кнігі,
б.сшыткам прыбытковых дакумантаў - 46 дакумантаў,
в.сшыткам выдатковых дакумантаў - 38 дакумантаў,
г.сшыткам разгледжаных заяваў - 20 пазыцыяў,
д.сшыткам карэспандэнцыі ў стыпэндыяльных справах - 55 пазыцыяў,
е.рэгістрацыйнаю кнігаю ўвайходзячай і выходзячай карэспандэнцыі ў стыпэндыяльных справах,
ж.сшыткам забавязаньняў аб звароце атрыманых стыпэндыяў - 24 пазыцыі,
з.рэгістрам стыпэндыятаў БССФ пры ЦБСА і
і.каталёгам па вышэйуспомненых рэгістраў.

Пасьля разгляду пайменаваных актаў Рэвізійная Камісія ўстанавіла наступнае.

І.У галіне агульнай дзейнасьці - няма рэгістру увайходзячай і выходзячай карэспандэнцыі па ЦБСА,а таксама ўвайходзячая карэспандэнцыя ня была нумараваная.Адсутнічаюць два пратаколы з пасяджаньняў Ураду ЦБСА у днях 17.10.1946 і 7.6.1947 г.

Іншых засьцярогаў адносна афармленьня актаў,якія датычаць агульнае дзейнасьці ЦБСА Рэвізійная Камісія ня мае.

Са зьместу разгледжанае карэспандэнцыі відаць,што Урад ЦБСА галоўную увагу прысьвячаў справе здабыцьця сродкаў на дапамогу студыюючай моладзі і ўладжаньню беларускае моладзі на вышэйшыя навучальныя ўстановы. І так,маюцца копіі перапіскі ў гэтай справе з усімі беларускімі грамадзкімі установамі ў Эўропе і прадстаўнікамі беларускае эміграцыі ў Амэрыцы.Што гэтая акцыя не засталася без посыпеху,сьведчыць стварэньне БССФ пры ЦБСА /глядзі ніжэй/ і прыхільныя адказы ў гэтай справе з абяцаньнем падтрымкі на будучыню. У галіне уладжаньня беларускае моладзі на вышэйшыя

навучальныя ўстановы,трэба лічыць выдікім сукцэсам Ураду ЦБСА прыйма на Марбурскі унівэрсітэт 17 студэнтаў былога унівэрсітэту УНРРА ў Мюнхэне. Апрача гэтага на Марбурскі унівэрсітэт было прынята некалькі абітурыентаў беларускіх гімназіяў у Д.П.-лягерох і рабіліся стараньні /нажаль бяз посьпеху/ аб прыйме далейшае групы на гіссэнскі унівэрсітэт.Нельга пакінуць бяз увагі таксама і дапамогі Ураду ЦБСА студэнтам-мэдыкам пры размяшчэньні іх на летнюю практыку ў шпіталях.

Урад ЦБСА выявіў шмат ініцыятывы,робячы захады аб выпуску друкаванага студэнцкага часопісу.У сувязі з цяжкасьцямі пры атрыманьні ліцэнзіі,а таксама тэхнічнымі перашкодамі справа гэтая дасюль ня скончана, аднак,у сучасны момант знаходзіцца ў сталыі пазытыўнага разьвязаньня.

З недахопаў у агульнай дзейнасьці ЦБСА па думцы Рэвізійнай Камісіі трэба адцеміць непрапарцыянальную да навуных магчымасьцяў працу ў арганізацыйным кірунку,доказам чаго зьяўляецца факт,што за справаздачны год у ЦБСА прыбыла толькі адна мясцовая студэнцкая арганізацыя,у той час, калі паводле маючыхся вестак,у некаторых іншых акадэміцкіх асяродках ёсьць для гэтага дастатковая колькасьць беларускіх студэнтаў.

Апрача гэтага паасобныя рэфэрэнты Цэнтралі недастаткова цікавіліся працай у іхніх рэсортах паасобных мясцовых арганізацыяў і не кіравалі гэтай працай.

З прагледжанай Рэвізійнай Камісіяй карэспандэнцыі зусім ня відаць, ці і якія захады былі зробленыя Урадам ЦБСА у кірунку легалізацыі арганізацыі.

2.У галіне фінансавай дзейнасьці па ЦБСА агулам:

З боку бугальтарскага афармленьня грашовых апэрацыяў заўважана наступныя недакладнасьці:

а.падпісаньня сташнёю рахункі на зробленыя ім канцылярскія выдаткі ў агульнай суме 77 РМ 60 Пф.не зацьверджаны пратакулярна Урадам /кас. кніга пав.1,2,3,4,5,6,15,16 і 22/

б.на пазыку ад Марбурскага БСЗ у суме 200 РМ няма прыходавага ордэру,а сума гэтая запрыходавана без такога /кас.кн.пав.14/.

Па-за гэтым касавая кніга ў поўным парадку і на ўсе прыбыткі і выдаткі ёсьць адпаведныя дакументы.

Касавы абарот ЦБСА на дзень 31.10.1947 прадстаўляецца як ніжэй:

| ПРЫБЫТКІ | | ВЫДАТКІ | |
|---|---|---|---|
| 1.Сяброўскія ўзносы мясцовых арганізацыяў | 309.50РМ. | 1.Камандыроўкі | 363.00РМ. |
| 2.Пазыка ад БСЗ Марбург | 200.00РМ. | 2.Канцылярскія | 72.75РМ. |
| 3.Ахвяра ад групы жыхароў лягеру ў Ватэнштэтт | 330.00РМ. | 3.Паштовыя | 59.20РМ. |
| 4.Іншыя | 98.00РМ. | Агулам | 499.95РМ. |
| Агулам | 1437.50РМ. | | |

Сальдо на дзень рэвізіі: 937РМ.55 Пф.

Наяўны стан касы спраўджаны і адпавядае вышэй пададзенай суме.

3.Стыпэндыяльны фонд ЦБСА.

Улік БССФ пры ЦБСА вёўся рэфэрэнтам сацыяльнай апекі зусім асобна ад агульнай фінансавай дзейнасьці ЦБСА і таму вынікі рэвізіі па гэтым фондзе пададзены тут асобна,як ніжэй:

Адносна афармленьня праведзеных грашовых апэрацыяў па БССФ Рэвізійная Камісія ня мае ніякіх засьцярогаў.На ўвагу заслугоўвае асабліва старанная вядзеньне рахунковасьці.

Касавы абарот па БССФ пры ЦБСА на дзень 31.10.1947 прадстаўляецца як ніжэй пададзена:

| ПРЫБЫТКІ | | ВЫДАТКІ |
|---|---|---|
| 1.Міхэльсдорф,лягер | 1500.00РМ. | глядзі 6 бал. |
| 2. -"- гімназія | 770.00РМ. | |
| 3. -"- сп.Асіпчык. ад царкоўных прыходаў | 300.00РМ. | |
| Да пераносу | 2570.00РМ. | |

ПРЫБЫТКІ

з пераносу . . . . . . . . . . .2570.ооРМ.:
4.Міхэльсдорф, сп.Асіпчык. . . . . 200.ооРМ.:
5.Альлендорф-Мюнхэнгоф. . . . . . 920.ооРМ.:
6.Украінскі Архіепіскап Грыгоры 475.ооРМ.:
7.Майнлеўс . . . . . . . . . . . .250.ооРМ.:
8.Остэргофэн . . . . . . . . . . .773.3оРМ.:
9. -"- адміністрацыя . . . .230.ооРМ.:
10. -"- лягер . . . . . . . .655.ооРМ.:
11. -"- -"- . . . . . . . .464.ооРМ.:
12.Гамбург, Архіепіскап Апанас . .76[illegible].ооРМ.:
13.Архіепіскап Апанас, збор у
царкве . . . . . . . . . . . . .800.ооРМ.:
14.Гэррэнбэрг . . . . . . . . . . .251.1оРМ.:
15.Віндзішбэргэрдорф. . . . . . . 1055.ооРМ.:
16.Беларуская група Райнэ . . . . .280.ооРМ.:
17.Зьезд лекараў . . . . . . . . 1000.ооРМ.:
18.Ашаффэнбург . . . . . . . . . .205.ооРМ.:
19.Бібэрах/Рісс. . . . . . . . . . .710.ооРМ.:
20.Заўльгаў . . . . . . . . . . . .490.ооРМ.:
21.Цірсгайм . . . . . . . . . . . .785.ооРМ.:
22.Др.Малецкі. . . . . . . . . . . .120.ооРМ.:
23.Вогэнштраўсс. . . . . . . . . . .625.3оРМ.:
24.Ватэнштэтт . . . . . . . . . . 2820.ооРМ.:
25.Шляйссгайм. . . . . . . . . . . .400.ооРМ.:
26.Ансбах . . . . . . . . . . . . .500.ооРМ.:
27.Нюрнбэрг. . . . . . . . . . . . .170.ооРМ.:
28.Іншыя дробныя . . . . . . . . . .152.ооРМ.:

Агулам 17664.3оРМ.

ВЫДАТКІ

1.Стыпэндыі сябрам
БСЗ Марбург . . .4072.5оРМ.
2.Стыпэндыі сябрам
БСЗ Мюнхэн . . . .1200.ооРМ.
3.Канцылярыйныя і
паштовыя . . . . . 215.46РМ.
4.Службовыя падарож-
жы . . . . . . . . . .98.ооРМ.
5.Іншыя, дапамаговага
характару. . . . . .64.ооРМ.

Агулам 5649.9оРМ.

Сальдо на дзень рэвізіі 12014 РМ.34 Пф.

Наяўны стан касы спраўджаны і адпавядае вышэй пададзенай суме.

Апрача гэтага натурай у якасьці дапамогі ў стыпэндыяльны фонд ад лягеру Остэргофэн атрымана 275 папяросаў, якія на дзень рэвізіі ў поўнай колькасьці знаходзіліся ў старшыні Ураду ЦБСА.

Рэвізійная Камісія, пасьля разгляду праробленай Урадам ЦБСА за справаздачны пэрыяд працы, якая праводзілася ўва ўсім нам добра ведамых цяжкіх умовах, сьцьвярджае, што Урад ЦБСА добра выявязаўся з ускладзеных на яго абавязкаў.

Рэвізійная Камісія прапануе Зьезду прызнаць уступаючаму Ураду ЦБСА абсалюторыюм.

Марбург, дня 31.10.1947 г.

Старшыня Рэвізійнай Камісіі
/Подпіс/
Сябры 1. /Подпісы/
2.

---:::Х:::---

БЕЛАРУСКІ ВЫГНАНЕЦ!!!

Тваім нацыянальным абавязкам зьяўляецца падтрымаць беларускага студэнта на чужыне, бо толькі ад цябе залежыць далейшае існаваньне БЕЛАРУСКАГА СТУДЭНЦКАГА СТЫПЭНДЫЯЛЬНАГА ФОНДУ.

Хто ведае, як доўга давядзецца нам прабыць на чужыне і сяньняшні студэнт можа заўтра, праз падтрымку нашых грамадзкіх арганізацыяў, зьверне атрыманую дапамогу.

Дык не шкадуй грашa на БССФ!

З н а в у к і  і  т э х н і к і .

## ЭЛЕКТРОНАВЫ МІКРАСКОП.

Ужо 5 год як электронавы мікраскоп,ува ўсё больш узрастаючай меры,знаходзіць ужытак у навуковых даследаваньнях.У параўнаньні да звычайнага мікраскопу зьяўляецца ён такім самым скокам наперад,як мікраскоп быў калісь поступам наперад у параўнаньні да звычайнага людзкога вока.Звычайны мікраскоп павялічвае аб'екты да 1000 дыяметраў.Пры помачы ультрафіялетавых праменьняў зьвялічваецца бачнасьць да 2000 дыяметраў. Электронавы мікраскоп дасягае павялічэньне да 200000 дыяметраў.Пры яго дапамозе можна бачыць,што бактэрыя,якая пад звычайным мікраскопам мае велічыню галоўкі ад шпількі,мае вонкавую цьвёрдую паволочку і вельмі скамплікаваную нутраную будову.

Як і кожная іншая прылада навукоўца,мае электронавы мікраскоп свае недахопы.У выніку асаблівай якасьці электронаў,якія робяць абраз відочным, часта зьяўляецца немагчымым атрымаць дастаткова востры абраз у глыб разгляданага прадмету.Дзеля адхіленьня гэтага недахопу зроблены далейшы крок,сутнасьць якога можна параўнаць з гальванічным пластаваньнем разгляданае субстанцыі.Гэта дасягаецца праз параваньне мэталю пад нізкім, зьбліжаным да абсалютнага вакуум ціскам.Найбольш адпаведнымі ў гэтым працэсе зьяўляюцца чыстае золата і хром.Пры іх застасаваньні пад электронавым мікраскопам мы атрымоўваем шмат вастрэйшы абраз у напрамку глыбіні..

Вялікай таямніцай была і ёсьць бактэрыя virus .Загадковасьць гэтай бактэрыі ў асабліва драматычнай форме выступае ў выпадку Poliomy.lits- . Навука яшчэ знайходзіцца далёка ад таго,каб магчы з упэўненасьцю высьветліць,як Poliom litis-Virus пераносіцца,якім чынам ён увайходзіць у арганізм і якія мерапрыемствы могуць забясьпечыць перад ягонай атакай ці,у выпадку заатакаваньня,выпрацаваць імунітэт.У прасьцейшых выпадках змаганьня з распаўсюджваньнем іншых заразлівых хваробаў як: грыпа,воспа,жоўтая трасца лекары ўжо пануюць над сітуацыяй.

Усё праўдападобна за тым,што электронаваму мікраскопу давядзецца ўзьняць заслону,якая таямніцай пакрывае структуру Viruss .

Virus выдаецца быць найцясьнейшым злучвам паміж жывым і нежывым сьветам.Дзякуючы электронаваму мікраскопу упершыню выяўлены,ён мае шмат якія арганічныя ўласьцівасьці звычайных нежывых малекулаў.Калі Virus , аднак,увайходзіць у жывёльную тканку,ён імкнецца множыцца,творыць новыя вогнішчы і выклікае пэўныя,зусім акрэсьленыя сімптомы хваробы.

Найбольш удалай мэтодай вылучыць virus для мікраскапавых досьледаваньняў ад дамешкаў,зьяўляецца застасаваньне супэрцэнтрафугі,якая круцячыся з вялікай хуткасьцю /да 1000 абаротаў на сэкунду/ і ствараючы гэтым вялікія адцэнтравыя сілы / у 250000 разоў большыя чымся сіла земскага прыцяганьня/,гэтым змушае цяжэйшыя часткі virusa вылучыцца.

Раней вучоныя былі думкі,што усе гатункі virusa складаюцца з розных колькасьцяў аднолькавых,па велічыні і форме падставовых элемэнтаў. Электронавы мікраскоп выявіў зусім супроцьлеглае: паасобныя гатункі virusaў сваёй структуры грунтоўна розьняцца і кожны virus мае свае падставовыя характэрныя для яго асаблівасьці.

Першы virus ,які быў пры дапамозе электронавага мікраскопу абсьледаваны,гэта вядомы тытунь-мазаік virus ,якога ўпершыню вылучыў Др.Вэндэлль М.Станлей у Рокфэльлераўскім Інстытуце ў Прынцэтон.Пры дапамозе электронмікраскапічных фатаграфіяў,якія завуцца электрограмамі было выяўлена,што virus падоўжнае формы і мае нахіл да тварэньня крышталаў.Пазьней атрымаў Др.Язэп Л.Мэльнік з Yale School of Medicine ад пацыентаў хворых на гэтую хваробу бактэрыі virus .Гэта яму удалося праз абарачваньне на супэрцэнтрафуве пабранае ад хворых матэрыі з хуткасьцю 39000 абаротаў на мінуту.Пасьля таго,як virus быў разгледжаны пад мікраскопам,

выявілася,што існуюць два тыпы малекулаў: губкатыя целы і падоўжныя ніцяватыя частачкі.Швэдзкі дасьледчык атрымаў таксама падобныя вынікі.

Таму,што новы мікраскоп дае магчымасьць дасьледчыку бачыць virusа, напэўна будзе кінута новае сьвятло на іммунітэт супроць захворваньня.Як ужо паведамляюць,існуе магчымасьць,што навукоўцы здолеюць бачыць,як частачкі virusа будуць заатакаваны абароннымі цельцамі арганізму /абароннымі матар'яламі/,г.зн. тымі матар'яламі,якія жывы арганізм у першую чаргу высылае на змаганьне з захворваньнем.

Далей,ёсьць надзея,што электронавы мікраскоп для ўстанаўленьня дыягнозу virus-захворваньняў і,магчыма,некаторых злосных нарываў удасца застасаваць у такой самай ступені,як сяньня аптычны мікраскоп у працоўні лекара выкарыстоўваецца для вызначэньня іншых,выкліканых таксама бактэрыямі, захворваньняў.Віролёгі спадзяюцца падгледзець мэханізм паводле якога virus выклікае хваробу пасьля таго,як ім удасца дакладна высьветліць спосабы росту бактэрыі.

Досьледы з электронным мікраскопам паказалі фабрыкантам,якім чынам фарба прымацоўваецца да шоўку,воўны і іншых тканінаў.У выніку гэтага яны здолелі вышукаць лепшыя мэтоды выконваць фарбы і фарбаваць адзежу,якую мы сяньня носім.

Дым,гліназём і парашкі для зьнішчаньня інсэктаў муселі выявіць свае таямніцы перад мікраскопам.Шмат якія гатункі дыму ў хімічнай прамысловасьці выдуляюцца шкоднымі для здароўя і дасьледчыкі дакладна высьветлілі,як густа сканцэнтраван мэталёвы пілок у фабрычным пыле.Гліназёмы, якія ўжываюцца для фільтрацыі алеяў,былі дасьледаваны пры помачы інструманту і ступень іхняе карыснасьці магла быць наперад устаноўлена.Доўгі час навукоўцы дзівіліся,чаму,з двох гатункаў парашкоў для зьнішчаньня інсэктаў,адзін парашок дзейнічаў надзвычайна,у той час як другі,такога самага хімічнага складу,не даваў пры застасаваньні практычна ніякіх вынікаў.Цяпер вядома,як сапраўды добры парашок можна выканаць дзеля таго,што электронавы мікраскоп выявіў,што той самы парашок,але больш раздробнены выконвае сваё заданьне лепей.

Калі справа ткнулася дасьледаваньня мэталяў пад мікраскопам,дык выявілася,што каб гэта зрабіць магчымым,трэба вынайсьці больш скамплікаваныя,больш дакладныя спосабы апрацоўваньня прызначанае для дасьледаваньня паверхні.Шмат якія мэталёвыя паверхні,як тонка яны ні былі выкананыя, усёякі выявілі сябе яшчэ "электронна-непразрыстымі".Гэніяльныя навукоўцы, каб адхіліць гэтую перашкоду,выконваюць формы,у якія маецца ліцца мэталь з іншага празрыстага мэталю.У сьценках гэтай формы адціскаецца паверхня наліванага мэталю і гэтыя "рэплікі", як іх называюць,пасьпяхова могуць быць абсьледаваны пад мікраскопам.

Мэталюрг можа больш зрабіць чымся толькі назіраць крышталі і паверхню мэталю;з назіраньня ён можа разгадаць таямніцы іхняй малекулярнай будовы.Зьменьваючы палажэньне аб'екту праз абарочваньне яго вакол так,што электроны прабіваюць яго ў штораз іншым напрамку,мэталюрг атрымоўвае абраз атамнай структуры назіранага матар'ялу.Тэхніка гэтая вядома пад назовам заломваньня электроннага струменю /дыфракцыя /.

Пад электронным мікраскопам шліфованы дыямант выглядае быццам пакрыты цэлай сеткай рысаў,а сьлізганыя паверхні кулькавага падшыпніка выдаюцца як разьезджаныя брудныя дарогі.Новая магчымасьць такога дакладнага дасьледаваньня змушае палепшыць яшчэ больш спосабы абрабляньня паверхняў.

Як адна з найбольш дакладных прыладаў,абяцае электронны мікраскоп быць правай рукою мэдыка ў ягоным бясконцым змаганьні з хваробамі,прамысдоўцу служыць аграмаднай дапамогай у дасканаленьні яго тэхнікі і навукоўцу стацца дадатковым вокам для пазнаньня таямніцаў будовы матэрыі.

Лўген Г.Конэ
/"Neue Auslese"/
Нр.5

# Восеньскі эпілёг

Адбіваючы глухі рытм на стыках рэйкаў,"Альпэн-Нордзээ экспрэсс" імчаў наперад...

На прасьцягох,дзе цягнік разгортваў найбольшую хуткасьць,пад гэты рытм мэталёвым зыкам пялі рэйкі.А потым іх анастайную песьню заглушаў ізноў бесталковы,хаатычны грукат на рэечных адгаліненьнях праяжджаных станцыяў.Мігалі прыгожа-маленькія,беленькія з чырвонымі дахамі забудаваньні з фігуркаю дзяжурнага ў чырвонай шапцы перад імі...

А далей ізноў нарастаючы рытм: тах-та-та-тах...тах-та-та-тах... і,урэшце,ізноў зык імклівага гону.

Хутчэй!.. штораз хутчэй!...

Падпёршы рукою бараду,Янка ў задуме глядзеў у вакно.Недзе там з-заду,у западаючай вячэрнай смузе восені,застаўся яблычны Вюртэмбэрг. І хоць за вакном,у апошні[illegible] праменьнях заходзячага сонца праплываў, здавалася,той самы тыповы для Нямеччыны краявід з ягонымі згрупаванымі чырванадахімі дамкамі-мураванкамі густа раскінутых сярод палёў і сенажацяў,мястэчкаў,з такім самым,здавалася,шпічастым готыкам касьцёлаў,нават з неадлучнымі гадзіньнікамі для пунктуальнага баўэра і,сям-там, страляючымі ў неба фабрычнымі камінамі,Янка адчуваў,аднак,нейкую розьніцу ў краявідзе.

Можа таму,што праз рэдкую сьцяну пажоўклых пералескаў нейк ня так часта выглядвалі рамантычныя вежы старадаўніх замчышчаў,засталіся недзе з-заду зацішныя сады з пагнутымі пад цяжарам яблыкаў галінамі,а іхняе мейсца занялі сенажаці ды палі.Можа таму,што цэленькія дагэтуль мястэчкі пачалі зьбягацца ў гарады з незацёртымі яшчэ сьлядамі бомбавых зьнішчэньняў і гусьцей пачалі ўзьнімацца ў неба каміны,сям-там,абступленыя блытанінай брудных,запыленых фабрычных уладжаньняў.

Часьцей пачаў спыняцца цягнік...На станцыях мітусіўся разнашэрсны пасьлеваенны натоўп са скрынкамі,валізкамі,рукзакамі і да таго падобным.Ён абмываў доўгі хвост экспрэсу і імкнуўся ў расчыненыя дзьверы пасажырскіх цягнікоў.Толькі нешматлікія ўласьнікі спэцыяльных дазволаў адрываліся ад натоўпу і,шчасьліва прайшоўшы паўз кандуктарох пры дзьвярох вагонаў экспрэсу,усядалі ў цягнік.Лязгалі зачыняныя дзьверы, трэль сьвістка сьвідравала паветра і цягнік бег далей.

Гусьцеў вячорны змрок...

Янка абапёр галаву аб сьцяну вагону.Ад доўгае язды шумела ў вушох.

-І зар'яваны-ж гэты Мікола,Сядзіць ліха ведае дзе,недзе аж каля Касэлю і,невядома адкуль дастаўшы адрас,раптам піша каб прыехаць. А яшчэ больш дурны я сам,- думае Янка - што выбраўся ў такую далячынь.

Але далей думкі ідуць спакайней.Успамінаецца...

Рудавалосы,сінявокі,вечна вясёлы Мікола.Пазнаёміліся яны ў камітэце ў Вільні,калі Янка,выкінуты ваеннымі падзеямі з роднага Менску з маленькаю валізачкай,стукаў у дзьверы з надпісам:"Беларускі Нацыянальны Камітэт у Вільні".Далей нешта было напісана аб гадзінах урадаваньня, але гэтага Янка не прачытаў /"ліха ведаешто,яшчэ гадзіны ўрадаваньня, а тут і пясок і дошкі,як той казаў,на галаву сыплюцца - фронт на носе"- буркнуў ён тады стукаючы ў дзьверы/.А калі-б не пастукаў,дык можа і не пазнаёміліся-б,бо на стук высунулася ўскалмачаная рудая галава з заспаным тварам /было 7,5 раніцы/,далей голая рука са скіраваным на гэтыя самыя "гадзіны ўрадаваньня" пальцам і нездаволены голас прабурчэў:"ня бачыце,што яшчэ рана.Самы-б спалі і добрым людзям спаць далі."

Янка ў першую хвіліну зьбянтэжыўся зьнясмелены бурклівым тонам. Пасьля кароткае паў[illegible] ўсьміхнуўшыся,прамовіў:"Калі,бачыце,спаць няма дзе.Ды ня ведаю ці [illegible]добрыя людзі"яшчэ доўга спаць змогуць".

Сінія Міколавы вочы ўперліся ў брудны,нявыспаны,нябрыты Янкаў твар,каўзанулі па запыленым ад цэланочнае язды сярод скрынак,бочак і

мешкоў на нямецкай вайсковай пяцітонцы плашчы, і спыніліся на абшарганай студэнцкай валізцы ля парога.
-А вы хто і адкуль ?- ужо больш ветліва спытаўся ён.
-З Менску. Калісь студэнтам мэдыцыны быў, апошні час аўтомэханікам, а вечарамі ў аркестры іграў.-
-Ого ! Дык вы можа і пекарам былі ? - зарагатаў Мікола.
-Не-е. - зьдзіўлена працягнуў Янка.
-Шкада. Ну залазьце.-
Янка ўвайшоў у цемнаваты калідор з некалькімі дзьвярыма. За аднымі з іх у кальсонах зьнік Мікола. На дзьвярох была прыбіта картка: "Мікола Жэга - сакратар. Прыватнае памешканьне." Ідучы за Міколаю, Янка ўвайшоў у невялічкі, нават маленькі, пакоік.
Ён як цяпер бачыць: зблытаная пасьцель, у беспарадку параскіданая адзежа, бюст нейкай там Юноны ці Вэнэры ў кутку ля вакна з закінутымі ёй на шыю гальштукамі, этажэрка з кніжкамі, запыленая рысавальная дошка і трыкутнікі на сьцяне, рэшткі селядца на стале, яшчэ нешта і, урэшце, вялікі кавалак мякішу хлеба з паабдзіранай з усіх бакоў скарынкай.
Янка паставіў у кутку пры дзьвярох валізку, абвёў яшчэ раз вачыма пакой і спыніў свой погляд на трыкутніках і дошцы...
-Студэнт таксама...- кінуў ён.
-Другога курсу палітэхнікі ў Варшаве.- адказаў той, сьпешна ўлазячы ў штаны.- Гэта было калісь.- дадаў.
Янка падыйшоў да стала і ткнуў пальцам у мякіш.
-Бачу, што ня пекар.-
-Таму й пытаўся ці часамі вы ня пекар. Гаспадыня ўцякла на вёску ад бамбардыровак, у горадзе хлеба няма, а ў мяне і мука, і печ, і дровы ёсьць. Толькі пячы ня ўмею. Бачыце, якое сьвінства выходзіць.-
-Ну, пекар ня пекар, але праснак сьпячы патраплю - быццам неўзнарок кінуў Янка, а ў самаго ў жываце аж сквірчэла.
-Эўрэка ! Гэта ўжо нешта ! А я думаў бяз сьнеданьня прыдзецца быць.- хлопнуўшы прыбылага па плячуку, ўсьцешыўся гаспадар.
Знаёмства наладзілася. Янка расказваў аб прарыве бальшавікоў з-пад Віцебску і Оршы на Менск, аб паніцы ў сталіцы і ўцёках немцаў.
-Хутка прыдзецца і адгэтуль даваць драла - закончыў ён з мінаю "спэца", разбоўтваючы аладкі. Мікола, які быў маладзейшы за Янку на гадоў два, прыціх і паслушна распальваў пліту.
Выцца на пацьверджаньне словаў Янкі, пачулася аддаленае гудзеньне самалётаў і гук сырэны.
Кінуўшы аладкі, яны зьбеглі ў пограб. Глухімі ўдарамі ў цемя вухкалі аддаленыя ўзрывы бомбаў. Часам яны рваліся зусім блізка і тады хваля паветра затыкала вушы. Атрымоўвалася ўражаньне быццам ты аглух на некаторы час. А потым зьвінела ў вушох і балела галава... Балела куды больш, чымся цяпер у вагоне...
Па вуліцах грукацелі танкі і самаходы.
Зьведзеныя разам выпадковым капрысам лёсу дзьве людзкія істоты ў абліччу небясьпекі пасябравалі.
Янка памятае... Аладкі свае такі яны тады сьпяклі.
А потым... І праўда ня прыйшлося больш начаваць у Вільні. Ліха ведае дзе яны толькі ня былі. Варшава... З Міколаю шукалі ягоных сяброў-студэнтаў, спадзяючыся ў іх знайсьці прытулак. Не хацелася ехаць у Нямеччыну, дзе чакала праца і жыцьцё ў лягеры. Тымчасам выбухла паўстаньне. Нічога ня зробіш. Выехалі ў Судэты і паступілі на фабрыку. Цяжка было, але неяк заўсёды юнацкі гумар знаходзіў магчымасьць падтрымаць слабеючыя нэрвы. Сьмяяліся, калі трэба было плакаць. Бесклапотны Мікола, ахамянуўшыся ад першых страхаў у Вільні, неяк усё ўмеў браць на весела. І сёрбаючы остаўскую зупу, нярэдка ўспаміналі аладкі ў дзень іхнага знаёмства. Куды смачнейшыя яны былі за гэтую зупу.
У хуткім паходзе наперад бальшавікі захапілі Судэты. Сталася гэта так нєспадзявана, што хлопцы і не агледзеліся, як іхні лягер быў акружаны. У часе ўцёкаў яны разгубіліся. Першы палез цераз дрот, якім быў абцягнуты

лягер,Янка.Удалося.Ужо будучы за дротам,ён пачуў крыкі і бачыў,як затрымалі Міколу.Першай думкай было вярнуцца.Але што дапаможаш ? І ён адзін падаўся ў цемень ночы.

На французскім баку ў Вюртэмбэргу хутка асеў.Знайшлося новае жаданьне вучыцца,пашырыліся пэрспэктывы.Не хацелася вярачыся трох курсаў мэдыцыны,скончаных у Менску.Старанна сабраў у галаве рэшткі разгубленых ведаў і паступіў на 4-ты курс у Цюбінгэн.Упарта заціснуў зубы і,хаваючыся ад савецкіх "рэпатрыятараў",вучыўся.Яшчэ ніколі ня меў гэткае сілы волі,гэткага жаданьня вучыцца,жаданьня скончыць.Аб гэтым маглі-б многа сказаць праапрацаваньня шматлікія гадзіны ў прасэкторыях,недаспаныя над кніжкаю ночы.І дапяў! Апошнія дзяржаўныя іспыты ў маі гэтага году і ён скончыў.Доктар Янка Кілевіч.Ды,нават,і ня істотна гэтае "доктар".Істотна,што дапяў пастаўленае мэты,што вытрываў.

Запішчэлі тармазы і цягнік стаў.Ізноў тая самая мітусьня ля вагонаў.Вырваны з успамінаў,Кілевіч схамянуўся.У скупым сьвятле,асьвятляўшым пэроны,ён разглядаеў на сваім гадзіньніку: за 8 мінут 7 гадзін.Яшчэ поў гадзіны дарогі.Поў гадзіны,ну,скажам,сорак хвілін і ён ізноў пабачыць Жэгу.

Цягнік рушыўся,і мякка ўзад паплылі пэроны...

-І сьмешна - разважаў далей Янка.-Радасьці таксама,як і нешчасьці ходзяць грамадою:Не пасьпеў адпачыць пасьля экзамінацыйных эмоцыяў,як,прыйшоўшы вечарам з пляжы,застаў на стале ліст ад Міколы.Той пісаў,што жыве каля Касэлю ў лягеры,вучыцца таксама далей на палітэхніцы,вельмі,вельмі рад,што,даведаўшыся выпадкова праз калегу-беларуса,які студ'юе ў Цюбінгэн,адрас Янкі,мае магчымасьць напісаць гэты ліст.Просіць пісаць.

Радасьць была вялікая.Дык Мікола таксама жыве і не на "родине",а тут.А Янка так баяўся за яго лёс.У той-жа вечар сеў і напісаў радасны ліст.Успамінаў там і віленскія аладкі.

Наладзілася перапіска.Мікола,даведаўшыся,што Янка скончыў студыі,прасіў прыехаць.І вось ён у цягніку...

Так,так.Неяк паступова,памалу усё наладжвалася,надыходзіла доўгачаканае заспакаеньне.Толькі адно ў надыйшоўшым заспакаеньні тым яскравей,штораз мацней успаміналася.Яго часова заглушыў жах бамбардыровак,неспакой тулыньня,праца.Хоць нават і тады яно прарывалася.Аб ім ня ведаў ніхто,нават Мікола.Аб гэтым ведаў толькі ён сам - Янка.Гэта быў мілы ўспамін аб ёй - агіднай ашуканцы ня вартай гэтага ўспаміну,альбо аб ёй - нявінна ім пакрыўджанай.Што з гэтых двох магчымасьцяў было праўдай - Янка ня ведаў.І гэтае няведамае мучыла...

Цягнік збліжаўся да Касэлю...

x x
x

Мікола,вусаты Мікола / з вусамі яго яшчэ ня бачыў Янка/ ледзь не задушыў сябру ў сваіх абдымках.Сябры не маглі нацешыцца са спатканьня. Не ведама ўжо каторы раз Мікола расказваў Янку усё,што здарылася пасьля таго,як яны так неспадзявана разлучыліся.

Нарэшце ён ахамянуўся.

-Ага,я,брат,і забыўся табе сказаць - сказаў ён,глянуўшы на гадзіньнік.- А маем яшчэ толькі дзесяць хвілін.Шкада было-б прапусьціць.Тут прыбыла канцэртная беларуская трупа ў наш лягер.Сяньня ў 8 гадзін даюць канцэрт.Шкада было-б не паслухаць,а заўтра яны едуць далей.Хадзем ! -

Яны пайшлі.Заля была перапоўненая,але Мікола нейкім,ведомым хіба толькі яму,чынам здабыў два мейсцы ў першых шэрагах крэслаў.

Трэйці званок і завеса расступаецца ў бакі.Пяе хор.Янка прагавіта ловіць гукі беларускай песьні.Здаецца гэта голас далёкай Бацькаўшчыны. Янку здаецца,што ён у менскім тэатры,як калісь,як раньней.Зьнікаюць сьцены чужога бараку,рады абдзёртых крэслаў,лаваў.У паўзмроку фантазія малюе

контуры бакавых ложаў, балькбнаў. І на душы робіцца цёпла, прыемна.
У антракце Янка назірае публіку. Тое самае захапленьне малюецца шмат на якіх тварах. У некаторых у вачох блішчаць сьлёзы.
Мікола таксама захоплены. Яны кураць, тоўпяцца ўражаньнямі. Янка анітрошкі не шкадуе, што прыехаў.
Другая частка канцэрту гэта лёгкая эстрадная музыка: рамансы, вытрымкі з опэрэтаў, балетныя нумары. Канфэрансье прагалашае салістку Ліду Маро, якая выканае раманс " Растаньне" - словы Тодара Лебяды, музыка... Прозьвішча кампазытара сьпявачка жадае захаваць у таямніцы.
Янка, як наэлектрызаваны, нахіляецца наперад. Няўжо... Няўжо Ліда Маронак - ягоны "мілы ўспамін", бо-ж гэтым "кампазытарам", што напісаў музыку для "Растаньня" зьяўляецца ён сам - Янка Кілевіч. Гэта было ў Менску ў тыя часы, якія ён потым так рашуча хацеў выкрасьліць з успамінаў. І гэта быў ягоны адзіны "кампазытарскі" твор, твор закаханага для тэй, якую ён кахаў.
На сцэне зьяўляецца салістка. Бледны, пачуцьцёвы твар, чорныя бяздонныя вочы, стройная, высокая, яшчэ больш поўная расьцьвітаўшае красы. Бледнасьць твару яшчэ мацней падкрэсьліваюць цёмныя валасы і чорная, да зямлі спадаючая фалдамі, сукенка. Янка бязвладна апіраецца аб сьпінку крэсла. Так... гэта яна...
-Прыгожая - шэпча ў захапленьні Мікола. За гэты шэпт Янка, здаецца, забіў-бы сябру. Чаму і сам ня ведае.

-Вось іначу у шоўкавым праўвесьні,
Праводзь-мною памятны мне гай.
Ты калісьці тут на разьвітаньне
Праказала мне "пішы не забывай"...
Выццам хвалі праляцелі годы,
Ты адна, і я цяпер адзін.
Толькі ў сэрцы, мусіць, назаўсёды,
Застанецца мілы ўспамін.
Тая ружа ў сэрцы не завяла,
Нашы стрэчы памятны з табой.
Ты ўсё гэта дружбай называла,
Але гэта ўсё была праўдзівай любоў.
. . . . . . . . . . . . .
І цяпер чагосьці дарагога
Не паклікаць, не вярнуць назад.
Я-б табе хацеў сказаць так многа
Тое ўсё, чаго яшчэ не сказаў.-

Пераліваецца, тонам жалю замірае сапран...
Бура воплескаў. Мікола крычыць "брава!" Яшчэ нехта "біс!" Толькі Янка сядзіць, схіліўшы галаву, нейкі прыгорблены, бясьсільны... Для яго гэта не мастацтва, ня сьпеў для публікі. Гэта крык яго душы, тое, што хацеў-бы ён Лідзе сказаць і гэтымі самымі словамі ў адказ ад яе пачуць.
Публіка не супакойваецца, але канфэрансье пераконвае, што салістка ніколі гэтую песьню не сьпявае на "біс". А, наагул, так, наагул, яна яшчэ будзе сьпяваць.
Рэшта канцэрту для Янкі страчана. Ён чакае канца, каб прайсьці за кулісы, усё роўна, як-бы яна яго ні спаткала. Яна сьпявае яшчэ некалькі рэчаў. Цяпер гэта ўспрымаецца ім, як добрае, праўдзівае мастацтва, але толькі мастацтва. Янку, нават, здаецца, што і сьпявачка цяпер не ўкладае столькі душы, столькі пачуцьця ў свой сьпеў, як гэта яна зрабіла ў "Рамансе". Разам з іншымі Янка б'е ад шчырага сэрца брава.
Нарэшце, за апошнім нумарам падае завеса. Зноў адчыняецца... Букеты красак... Ліда трымае цудоўныя вялікія хрызантэмы.
Пад заціхаючыя воплескі і гоман публікі, Мікола хапае Янку пад руку і цягне за кулісы. Ён усхвалёваны, захоплены, ба, нават, закаханы ў Маро.
Дарогу загароджвае адразу-ж за кулісамі высокі хлапчына. -Выбачце, чужым ня можна,- гаворыць ён басам.
Мікола ня губляецца і, падмігнуўшы Янку, кажа да хлапчыны, глядзячы,

як на вежу ўгару /хоць сам Мікола таксама не малі/.

-Мі з прэсы.Хацелі-б некалькі пародных апносна...-

-Калі-ласка.Я вас завяду да дырэктара - робіцца ветлівым бас і ідзе наперад.Сябрам нічога не застаецца,як ісьці за ім.

-Каб ты зьеў свайго дырэктара - бурчыць пацішку Мікола,але няма рады,трэба ісьці.

У вялікам пакоі балаган.Запакоўваюцца сцэнічныя убраньні,рэквізіты.Усім гэтым кіруе высокі сівавы мужчына.Да яго скіроўваецца бас і,прадставіўшы прыбылых словамі:-спадар дырэктар,да вас з прэсы,- адходзіць.

Прадстаўляюцца.Мікола з кіслай мінай увайходзіць у ролю рэпартэра.Зьнецярплівлены Янка хоча спыніць,урэшце, гэтую камэдыю.Выказаўшы упэўненасьць,што ягоны калега /ветлівы жэст у бок Міколы/ напэўна выпадуе са спадара дырэктара усё цікавае аб трупе,Янка просіць дазволу пагутарыць з акторамі-мінчукамі,бо ён сам з Менску і ахвотна спаткаўся-б з земляками.

-А як-жа,калі ласка.- усьміхаецца ветлівы дырэктар.Быццам не заўважаючы злосных поглядаў Міколы,Янка выходзіць.

У калідоры ён ледзь не наскочыў на Ліду.На твары яе хутка адбілася зьдзіўленьне,радасьць,заклапочаньне і,урэшце,насьцярожана упярліся чорныя вочы у Янку.

-Так,гэта я - недарэчна сказаў ён.

-Нашто,нашто ты ізноў спаткаў мяне.- з болем выкінула Ліда.

-Ліда...-

-Ці маеш ты яшчэ што новае сказаць мне...агіднай ашуканцы...-

-у спазме болю сьціснуліся вусны.Дзьве сьлязіны скаціліся павалі па яе твары.

-Ліда...Мы так даўно ня бачыліся...Апошні раз выслухай мяне.І я пайду.Пайду,каб больш цябе ня крыўдзіць.Выйдзем,тут нас могуць бачыць.-

-схапіўшы пад руку,ён сілаю пацягнуў яе за сабою.

Яны выйшлі на лягерны двор.Сапхуль на глухую вулачку прадмесьця.

Прапала недзе яе горыасьць,амбіцыя.Яна плакала,вырываючыся з яго рук.Вырвалася і,адвярнуўшыся,аперлася на плот. Узрыгвалі худыя плечыкі...

-Ліда,я цябе кахаў...А ты? Ты мяне так скрыўдзіла...Памятаеш той апошні наш вечар ? Цэлы вечар ты танцавала з гэтым прыяналым "Дон-Жуанам"з управы быццам забыўшыся аб мне.Ён цябе цалаваў,а пасьля вечарыны позна уначы ён праводзіў цябе аж на Камароўку...Мне усё гэта на заўтрае расказала Верка.-Янка спыніўся,быццам яшчэ раз перажываючым мінулае-

-я нагаварыў тады шмат глупстваў табе.Верка лгала,яна мне потым у гэтым прызналася,але было ужо позна.У пачатку,пасьля таго цябе яшчэ некалькі разоў бачылі з ім і я ня ведаў,урэшце,што праўда,а што лганства. Ты упартая і я таксама.Ніхто з нас першы не хацеў гаварыць.Гэта было так...Так горка закончыўся "мілы успамін".Сяньня я ня маю права у цябе нічога пытацца.Магчыма ты ужо замужам,або пакахала кагосьці іншага, У імя мінулага скажы мне сяньня праўду.Я хачу пачуць яе з тваіх вуснаў. І я адыйду з пачуцьцём,што ты была вартай маіх пачуцьцяў,або,калі праўдай зьяўляецца гэтае брыднае,гадкае,няхай я ведаю,што я цябе ня скрыўдзіў,што ты заслужыла на абразу...-

Паўза...Толькі ад часу да часу яна яшчэ усхліпвае.Вочы спалохана глядзяць на яго.

-Гэта было ня праўда.Са Санькай мяне нічога не лучыла.Ён накідаўся мне,з майго боку было можа крыху дзіцячай лёгкадумнасьці,жаданьня паваздзіць за нос гэтага,як ты кажаш,"Дон-Жуана",але больш нічога. Увесь гэты бруд гэта як раз іх з Веркай справа.Усё тое,што расказвала тады Вера пра мяне з Санькай,рабіла сама яна з ім.Чаму яна гаварыла няпраўду.я ня ведаю.-плач ізноў перапыніў паток яе словаў- Урэштай усё роўна...Гэта было калісь...А цяпер ? Цяпер ты пачуў праўду,якую хацеў, і ідзі сабе...Там недзе можа жонка і дзеці цябе чакаюць...- з болем із-

ноў горла заціснуліся вусны.

-Лідусь ! Кінь глупствы.- сьмеючыся шчасьліва, ён схапіў яе ў абняцьці.Яна моцна ўперлася рукамі ў грудзі Янкі,адпіхаючы яго ад сябе.

-Я адзін.Як воўк самотны,адзін.Божа,колькі я вынцерпеў.Я падсьвядома адчуваў,што скрыўдзіў цябе.-

Зьдзіўленьне,потым праблескі цяпла сьвецяцца скрозь сьлёзы ў заплаканых яе вачох.

-А я ? Ты горкі,ядавіты адыйшоў,пакінуўшы мне сонечныя ўспаміны аб мінулым шчасьці і...песеньку аб нечым дарагім,чаго не вярнуць назад. У цыганскім бадзяньні гэтая песенька была мне адзінай пацехай,мілым успамінам.

-Ты кажаш:"не вярнуць назад",-

-Так кажа песенька,што напісаў ты для мяне.-

-А ты,што скажаш ?-

-Я ?- упор рук слабее.Яны раптоўна дзіка абвіваюцца вакол шыі Янкі.Вусны злучаюцца набалелым мінулай крыўдай і доўгім растаньнем пацалункам...

x x
x

Сонечны восеньскі дзень.Пажоўклыя лісты кружацца ў паветры і і паволі ападаюць уніз.Шмат іх ляжыць на зямлі,засыцілаючы сьцежку.Толькі зялёныя хвоі цёмнымі плямамі выступаюць на залацiста-жоўтым фоне,ды,сям-там,іржавай чырваньню,як дысананс на гэтым тле,ірдзіцца між пажоўклым,чамусьці,аж чырвонае лісьцё...

Яны ўтраіх ідуць сьцежкаю праз лес.Ціхая мэлянхолія прыроды бальзама кладзецца на душу.Яна гоіць раны сэрца,звальняе нацягнутыя да болю нэрвы і,нават,на некаторы час,дазваляе забыцца аб сумнай сапраўднасьці чужыны.Бо пажоўклы лес такі самы,як там на Беларусі.

Ліда трымае пад руку Янку і Міколу.Яна лёгка апіраецца на плячо Янкі.Так,як быццам нічога не зьмянілася,яны ідуць як калісь у Менску. Усё балючае,цяжкае,крыўда і сум адзіноты адыйшлі,як сон.Іх зраўняла сваёй мяккай задумай залацістая восень.

- Дык вырашана - кажа Янка - Ты,Ліда,канчаеш сваё падарожжа з трупай,гэта патрывае яшчэ са два тыдні,як мне казаў ваш дырэктар і з Міколай прыяжджайце да мяне ў Вюртэмбэрг.Хочаш ці не,а табе,брат,прыйдзецца давесьці справу да канца і быць сьведкай на нашым шлюбе.-

-Так,так - сьмяецца Мікола,- але гэтага інтэрвью з дырэктарам тэатру,у якое ты мяне управіў,я так лёгка не дарую.-

Яны сьмяюцца.

-І вам не шкада будзе сцэны,поўнай залі глядачоў,ня сумна будзе без іх захапленьня ? - пасьля кароткае паўзы,поўжартам зьвяртаецца Мікола да Ліды.

-Не...Я ахвотна праменяю ўсё гэта на ціхі восеньскі эпілёг нашай шчасьлівай вясны.

Тон.

---:::X:::---

Абавязкам кожнага студэнта-беларуса на чужыне зьяўляецца падтрымаць наш адзіны студэнцкі часопіс у Нямеччыне.
С л а б ы ё н ???
А ці шмат зрабіў Ты каб палепшыць яго ???

СЯБРЫ !!! ПІШЭЦЕ ДА НАС АБ СВАІМ ЖЫЦЬЦІ ,АБ СВАІХ КЛЮПАТАХ ! ! !

THE NEW YORK PUBLIC LIBRARY

## Са студэнцкага жыцьця ў Нямеччыне.

### ХТО СТУДЭЮЕ НА ЎНІВЭРСЫТЭТАХ АМЭРЫКАНСКАЙ ЗОНЫ НЯМЕЧЧЫНЫ ?

У амэрыканскай зоне Нямеччыны ўва ўнівэрсытэтах і вышэйшых тэхнічных, сельскагаспадарчых, вэтэрынарных, філязофічна-тэалягічных, мастацкіх, эканамічных школах каля 52000 студэнтаў. У сярэднім век студэнта 4-га сэмэстру роўны 26 год.

Паводля мейсца свайго паходжаньня студэнты дзеляцца такім чынам :
Студэнтаў з амэрыканскае зоны - 72%
-"- -"-ангельскае зоны - 13%
-"- -"-францускае зоны - 6%
-"- -"-расейскае зоны - 9%

Студэнты-чужынцы складаюць 11% агульнага ліку студэнтаў. Жанчын студэюе на вышэйшых школах амэрыканскае зоны Нямеччыны 16,8%. 18% ліку усіх студэнтаў зьяўляецца інвалідамі апошняе вайны. Палітычна прасьледаваных ёсьць 3%. Жанатыя студэнты складаюць 11% агульнага ліку.

Паводле сацыяльнага паходжаньня студэнты вышэйшых школаў амэрыканскае зоны Нямеччыны дзеляцца наступна :
Дзеці акадэмікаў - 24,5 %
-"- урадаўцаў і службоўцаў - 52,2 %
-"- рамясьнікоў . . . . . . - 4,8 %
-"- сялян . . . . . . . . . - 6,0 %
-"- рабочых . . . . . . . . - 4,3 %
-"- розных іншых. . . . . . - 8,2 %

Глядзячы на апошнюю табліцу мы заўважваем надзвычайна нізкі процант дзяцей трох галоўных пластоў нямецкага народу сярод нямецкага студэнцтва.

Ненармальнае гэтае зьявішча даўно заўважана кіруючымі дзейнікамі акадэмічнага жыцьця сяньняшняй Нямеччыны, доказам чаго зьяўляецца тая дыскусія на тэму "Хто павінен студыяваць?." і "У якім напрамку неабходна рэарганізаваць вышэйшыя навучальныя ўстановы ў Нямеччыне ?", якая вядзецца на старонках нямецкае прэсы ўлучаючы сюды і студэнцкую.

Я.

---:::X:::---

THE NEW YORK PUBLIC LIBRARY

### Магчымасьці прыняцьця студэнтаў былога ўнівэрсытэту УНРРА на нямецкія ўнівэрсытэты.

Вясною гэтага году, калі канчаў сваё існаваньне ўнівэрсытэт УНРРА ў Мюнхэне, яго студэнты сталі перад пэрспэктывай "з аўдыторыі ды на вуліцу", нямецкія ўрадавыя колы пачуліся зьмушанымі зрабіць пэўныя крокі, каб, пайшоўшы на спатканьне расчараванай моладзі, выявіць гэтым хоць у самай мінімальнай меры сваё дэмакратычнае наставленьне да яе. Шмат, аднак, гэтыя колы зрабіць не змаглі /ці, можа, не хацелі/. Досыць таго, што студэнты унівэрсытэту УНРРА завісьлі ў павуціне міжурадавых непаразуменьняў : сакратарыят паслаў у рэктарат, рэктарат у міністэрства асьветы Баварыі, а гэтае апошняе ў кваліфікацыйную камісію. Студэнты ўнівэрсытэту УНРРА былі зьмушаныя паддацца спраўджаньню іхніх фаховых ведаў. На гэтай мітусьні прайшло шмат часу, сэмэстр на ўнівэрсытэтах распачаўся і здолелі пралезьці туды толькі тыя, хто, махнуўшы рукою на звычайную ўрадавую дарогу, хапіўся за менш афіцыяльныя, але затое больш пэўныя сродкі, аб якіх ня мала маглі-б расказаць урадаўцы канцылярыяў некаторых унівэрсытэтаў. Рэшта разьмясьцілася на ўкраінскім унівэрсітэце ці, эмігравала, ці, рэпатрыяваная, кінула студыі.

Але вось, мусіць згодна з прынцыпам : "лепш позна, чым ніколі" баварскае міністэрства асьветы ў Мюнхэне паведаміла, што ўсе тыя студэнты унівэрсытэту УНРРА, якія, у свой час, пасьпяхова прайшлі спраўджаньне іхніх

фаховых ведаў,будуць разьмешчаны на нямецкіх унівэрсітэтах амэрыканскае зоні.У найбліжэйшым часе яны павінны атрымаць асабістыя паведамленьні ў гэтай справе.Студэнтам,якія будуць накіраваны на мюнхэнскія вышэйшыя нямецкія школы,аўтаматычна будзе пацягнуты дазвол на пражываньне ў Мюнхэне.

З свайго боку радзім зацікаўленым у гэтай справе калегам,асабіста, або пісьмова зьвярнуцца ў міністэрства асьветы,каб,такім чынам,прыспешыць справу іхняга прыняцьця на нямецкія вышэйшыя навучальныя ўстановы. Новая магчымасьць паступленьня,не гледзячы на тое,што адчынілася даволі позна,павінна быць цалкам выкарыстана.

Ікс.

---:::X:::---

МІЖНАРОДНЫ УНІВЭРСЫТЭТ.

Адчыненьне ўсіх сэмэстраў і факультэтаў /юрыдычна-эканамічнага, мэдычнага,прыродазнаўча-матэматычнага,філязафічнага,палітэхнічнага і тэалягічнага/,рэарганізаванага з унівэрсітэту УНРРА,ІНТЭРНАЦЫЯНАЛЬНАГА УНІВЭРСЫТЭТУ Сусьветнай Лігі "Pro Una Sancta Catholica et Apostolica залежыць ад таго,у якой меры ўдасца абсадзіць прадбачаныя катэдры новымі навуковымі сіламі.

У прыйме заяваў кандыдатаў на выкладчыкаў /прафэсароў,дацэнтаў, асыстэнтаў/ у Інтэрнацыянальным Унівэрсытэце часова пасярэднічаюць:Міжнародная Унія Студэнтаў /"Unio Studiosorum Universitatis Internationalis,München,Zeppelinstr 37/I.Урадавыя дні аўторкі і чацьверы/ і Братняя Дапамога Студэнтаў-Палякоў у Мюнхэна,Вінцэрэрштр.54/III.

Да заявы /на нямецкай або ангельскай мове/ неабходна далучыць жыцьцяпіс,з якога дакладна відаць было-б мінулая навуковая дзейнасьць кандыдата.

Праўна-фінансавую апеку дзяржаўных уладаў мае ўнівэрсытэт загварантаваную.

Унівэрсытэт будзе адчынены праўдападобна пасьля зімовага 1947/48 сэмэстру.

/"Д.П.Экспрэсс" Нр.32 /
Мюнхэн 15.10.1947г.

---:::X:::---

Паседжаньне Рады Нацыянальнасьцяў пры Інтэрнацыянальнай Студэнцкай Асацыяцыі ў Мюнхэне.

17-га кастрычніка ў памешканьні генэральнага сакратара Ураду ІСА ў Мюнхэне адбылося чарговае паседжаньне Рады Нацыянальнасьцяў,якая зьяўляецца ўстаноўчым органам у той час,як Урад зьяўляецца выканаўчым органам арганізацыі.

У паседжаньні ўзялі ўдзел прадстаўнікі ўсіх уваходзячых у ІСА нацыянальных студэнцкіх арганізацыяў Мюнхэну,у тым ліку і прадстаўнік Беларускага Студэнцкага Згуртаваньня.

Рада Нацыянальнасьцяў выслухала справаздачу рэфэрэнта сувязі сп. Б.Шільса,які,як дэлегат ІСА,узяў удзел,побач з дэлегатамі нямецкага студэнцтва,у канфэрэнцыі міністраў асьветы ў Гановэры.Канфэрэнцыя разглядала справу рэформы вышэйшага школьніцтва Нямеччыны.Ідучы ў напрамку некаторага прытарнаваньня парадку студыяў да абставінаў цяжкога пасьляваеннага часу,канфэрэнцыя пастанавіла,там дзе гэта будзе магчыма,уладзіць майстэрні,каб студэнты па-за лекцыямі маглі працаваць практычна /па магчымасьці ў сваім фаху/ і,заробленымі грашыма,аплачваць свае студыі на

унівэрсытэце.

З прычыны спозьненага часу /парадак дня канфэрэнцыі быў загадзя ўстаноўлены/ дэлегату ICA не ўдалося дасягнуць таго,каб справа унівэрсытэту УНРРА і арганізацыі Міжнароднага Унівэрсытэту асобным рэфэратам была пастаўлена на парадак дня канфэрэнцыі,у дыскусіі,аднак,над справай адцягваньня пераапоўненых нямецкіх унівэрсытэтаў справа гэтая выплыла.

Выявілася,што рэктары шмат якіх унівэрсытэтаў нічога ня чулі аб існаваўшым у Мюнхэне унівэрсытэце УНРРА.

Праз удзяленьне адпаведных інфармацыяў у гэтай справе дэлегату ICA ўдалося зацікавіць вышэйшыя асьветныя колы Нямеччыны пытаньнем рэарганізацыі былога Унівэрсытэту УНРРА ў Міжнародны Унівэрсытэт.

Для бліжэйшага абсьледаваньня гэтага пытаньня мае быць у недалёкай будучыні скліканая спэцыяльная канфэрэнцыя ў Мюнхэне.

Дэлегат ICA сп.Шільс між іншым паінфармаваў Раду Нацыянальнасьцяў,што ў Гановэры студэнты-палякі і студэнты балтыйскіх краінаў маюць свае студэнцкія дамы,у якіх за кватэру нічога ня плоцяць і,апрача таго, атрымоўваюць 100 марак у месяц на студыі.

Далей на пасяджаньні Рады была абгаворана справа арганізацыі міжнароднага студэнцкага вечара з мастацкімі выступамі паасобных нацыянальных студэнцкіх групаў.Вечар мае на мэце засьцьненьне асабістага кантакту паміж студэнтамі паасобных нацыянальных арганізацыяў,які /кантакт/ пасьля зачыненьня Унівэрсытэту УНРРА значна аслабіўся ў выніку распыленьня ягоных студэнтаў па паасобных нямецкіх навучальных установах.Як прадбачыцца,вечар гэты адбудзецца ў канцы лістапада г.г.

Рада Нацыянальнасьцяў пастанавіла распачаць падрыхтаваньні да скліканьня Міжнароднага Кангрэсу студэнтаў-чужынцаў 3 заходніх зонаў Нямеччыны.Улічваючы тэхнічныя цяжкасьці зьвязаныя з гэтым,а таксама і тое,што Кангрэс павінен стаяць на адпаведна высокім узроўні,прыблізным тэрмінам скліканьня яго вызначана вясна 1948 г.

У апошні пункце парадку дня генэральны сакратар ICA паведаміў,што ў Бонн /ангельская зона/ створана таксама Інтэрнацыянальная Студэнцкая Асацыяцыя,якая зьвярнулася да ICA ў Мюнхэне з просьбаю,каб гэтая апошняя прыняла новастворанаю арганізацыю як сваю філію.Рада Нацыянальнасьцяў выказала на гэта сваю згоду.

На гэтым пасяджаньне было зачынена.

Ікс.

---:::X:::---

THE NEW YORK PUBLIC LIBRARY

З беларускага жыцьця.

ВЫЙШЛА БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА.

У мінулым нумары нашага часопісу мы пісалі аб заняпадзе нашага ратататарнага друку на чужыне.У гэтым нумары з прыемнасьцю адзначаем,выхад у сьвет першага нумару беларускае ліцэнзіванае газэты "Бацькаўшчына".Нарэшце сапраўды друкаванае беларускае слова ў Нямеччыне.

Ня будзем забаўляцца ў прароцтвы. Пажадаем толькі новай газэце як найлепшага росту і росквіту,а таксама зьяднаць вакол сябе нашае расцярушанае ў заходніх зонах Нямеччыны грамадзтва.

Я.

---:::X:::---

Купляйце і распаўсюджвайце газэту

"БАЦЬКАЎШЧЫНА"!

ВЫСТАЎКА МАСТАЦКІХ ВЫРАБАЎ ДЛЯ. Ў Ш Л Я Й С Г А Й М Е .

Дня 10.10 г.г. у памешканьні лягернага спартовага клюбу адбылося адкрыцьцё выстаўкі мастацкіх твораў беларускіх, украінскіх і расейскіх эміграпнтаў, што жывуць у нашым лягеры.
На адчыненьні выстаўкі прысутнічалі амэрыканскія госьці, кіраўнікі лягеру і прадстаўнікі рэпрэзэнтаваных на выстаўцы нацыянальных груп.
Паміж розных аддзелаў вырабаў лягерных майстэрняў і паасобных мастакоў, беларускі куток запрашаў наведвальніка сваёй мальўнічасьцю ткацкіх вырабаў. Віртуозна вытканыя рушнікі і настольнікі змушалі вока гасьцей даўжэй затрымацца і дакладней прыглядзецца да экспанатаў. Агульным зацікаўленьнем цешыўся невялікі скрутак нашага шэрага ільнянога дамотканага палатна. Як-жа дарагім ён тут выдаваўся сярод гэтых памысловых узораў, ня гледзячы на сваю шэрасьць, штодзённасьць! Ладную частку беларускага кутка складалі, як у сэнсе якасьці, так і ў сэнсе колькасьці экспанаты "палешукоў", якія, на выраўнае жаданьне іх уласьнікаў, знайшоўшыся сярод беларускіх экспанатаў, дакумэнтавалі сваю адналітасьць з беларускім народным мастацтвам, а гэтым самым і нацыянальную прыналежнасьць нашых паўднёвых узьмежжаў.
"Беларускае мастацтва" - чыталі наведвальнікі, а скромная Пагоня на тле бел-чырвона-белага сьцягу, прытульна зьмешчанага ў кутку падкрэсьлівала чыста нацыянальны характар беларускага аддзелу.
-Гэта сапраўды усё роблена дамовым спосабам на Беларусі ?-
-Так. Дайце нам неабходныя прылады і мы зробім гэткія самыя рэчы тут, у лягеры - быў адказ нашага дзяжурнага нямецкім і іншым гледачам.
Дзякуючы стараньням Беларускага Жаночага Камітэту ў нашым лягеры /перадусім сп.сп. Е.К-н і В.Л-к/, а таксама настаўніку сп.Ф.Р-ку, які найбольш спрычыніліся да арганізацыі беларускага аддзелу на лягернай выстаўцы, у зел наш прыпамінаў аб нашай нацыянальнай жывучасьці, нашых магчымасьцях і падкрэсьліваў нашае апрычонае існаваньне сярод іншых нацыянальнасьцяў у лягеры Шляйсгайм.

А.К.

---:::X:::---

Задзіночаньне Беларускіх Вэтэранаў у Шляйсгайме.

Дня 19.10 г.г. адбыўся арганізацыйны сход Задзіночаньня Беларускіх Вэтэранаў у Шляйсгайме.
Прысутныя, праслухаўшы статут прапанаваны галоўным кіраўніцтвам Беларускіх Вэтэранаў у Рэгэнсбургу, пастанавілі заклесьці аддзел задзіночаньня ў Шляйсгайме.
На сходзе быў выбраны ўрад аддзелу ў колькасьці 3-х асобаў: старшыні, сакратара і скарбніка.

Ікс.

---:::X:::---

У м ю н х э н с к і м Б.С.З.

СХОД СЯБРОЎ.

18.10 у памешканьні беларускае школы ў Шляйсгайме адбыўся сход сяброў мюнхэнскага Беларускага Студэнцкага Згуртаваньня.
Сход выбраў дэлегатаў на Агульны Студэнцкі Зьезд у Марбургу ў колькасьці 9 асобаў, адпаведна колькасьці 45 сяброў арганізацыі.
У пункце другім парадку дня сход разгледзеў просьбу Цэнтралі Беларускіх Студэнцкіх Арганізацыяў на Чужыне аб пералічэньні са сродкаў БСЗ у Мюнхэне на Беларускі Студэнцкі Стыпэндыяльны Фонд Цэнтралі пэўнай сумы грошай.

Прымаючы пад увагу бернасьць сродкаў уласнае арганізацыі, сход вырашыў гэтую справу адкласьці да часу Агульнага Студэнцкага Зьезду ў Марбургу.

Ікс.

—:::Х:::—

# Наша пошта



Рэдакцыя "Студэнцкага Клічу" атрымала шэраг лістоў з прыхільнымі воштукамі і заўвагамі адносна зьместу часопісу. Цешыць нас прыхільнасьць, з якою спатыкае беларускае грамадзтва наш студэнцкі часопіс – гэта сьведчыць аб тым, што мы на правільным шляху. З другога боку яшчэ больш прыемным зьяўляецца факт заіснаваньня жывога абмену думак, што зьяўляецца прав гэтыя л сты.

Зьмяшчаючы ніжэй некаторыя з іх, а на іншыя даючы толькі адказы, мы просім і надалей пісаць да нас. Вашыя лісты, кіраваныя Вашай добрай інтэнцыяй, дапамогуць нам працаваць яшчэ лепей, зрабіць "Студэнцкі Кліч" яшчэ цікавейшым.

Рэдакцыя.

Ад Беларускага Камітэту ў Вялікай Гэсіі атрыманы наступны ліст :
"Мэнхэнгоф, 10.10.47. У Беларускае Студэнцкае Згуртаваньне
ў Мюнхэне.

Дзякуючы за прысланы ў свой час "Студэнцкі Кліч" не магу не падкрэсьліць дадатнага ўражаньня, якое выклікае гэты студэнцкі часапіс. Апрача шчасьлівай зьмены назову і зьмест "Студэнцкага Клічу" вельмі выгодна адрозьніваецца ад папярэдніх нумароў "Крыв. Сьв.". Амаль усё – актуальнае і студэнцкае, ды і вершык толькі адзін! А найгоршай-жа балячкай нашай эміграцкае прэсы было дагэтуль, што, як згаварыўшыся, пісалі аб адным і тым самым /пераважна адыгравалі старыя, ледзь не нашаніўскі матар'ял/ і канешна ўстаўлялі ў прыдатак сьляпога лірніка: /верш/. "Мэтычная Думка" з вершыкамі, гэта ўжо была граніца журналістычнага бяззгляднага. А найважней гэта тое, што мюнхэнскія студэнты запачаткавалі беларускае эміграцкае выдавецтва і цяпер яшчэ яго вядуць, у той час, як ані найстарэйшыя, ані наймалодшыя /скауты/ не вытрывалі, раструсіліся і зьніклі бясьсьледна. Дык няхай-жа студэнцкая прэса .. vivat, crescat, floreat !
Жыве Беларусь !

Старшыня Камітэту.

Адказ : Дзякуем за прыхільнасьць і зразуменьне. Толькі ў адным з Вамі не зусім пагаджаемся : вершы, калі яны не зусім дрэнныя, могуць друкавацца ў "Студ. Клічы". Бяда толькі тая, што нашыя маладыя паэты часова без натхненьня і гэтым тлумачыцца адсутнасьць вершаў у часопісе.

Др.В., Заульгаў. Грошы за высланыя Вам экзэмпляры "Студ.Клічу" Нр.1/15 атрымалі. "Студэнцкі Кліч" Нр.2/16 высылаем згодна з атрыманымі ад Вас адрасамі. Дзякуем за дапамогу.

Сп.М.А., Міхэльсдорф. Нас вельмі цешыць, што сьведамае беларускае грамадзтва Вашага лягеру спаткала "Студэнцкі Кліч" з задавальненьнем. Аднэй з мэтаў нашага часопісу зьяўляецца як раз, праз правідловую інфармацыю аб нашым жыцьці, нашых ідэях, нашым становішчы ў грамадзка-нацыянальных пытаньнях, захаваць лучнасьць з нацыянальна думаючым і ў нацыянальным напрамку думаючым беларускім грамадзянствам на чужыне, бо мы-ж таксама частка нашай палітычнай эміграцыі.

Пішаце, што пажадана зьмяшчаць такія артыкулы як: "Княгіня Магдалена-Матыльда Радзівіл." У меру магчымасьцяў будзем падобныя артыкулы зьмяшчаць. У гэтай справе нам могуць дапамагчы перадусім старэйшыя векам аўтары спасярод старэйшага грамадзянства, якіх просім прысылаць свае матар'ялы.

Сп.М.Н., Ротвайль. Грошы атрымалі. За пажаданьні дзякуем. Часопіс будзем высылаць.

N. Y. P. L.
Research Libraries

THE NEW YORK PUBLIC LIBRARY

Сп.В.Н.,Нэльлінгэн."Студэнцкі Кліч" высілаем.Іншай беларускай літаратуры
шкаль ня маем і таму высылаць ня можам.
Сп.С.М.,Маінлёйс.Разьлік у справе часопісу атрымалі.Высылаючы на Вашае імя
часопіс,мы лічылі,што Вы,як і кожны сьвядомы беларус,не абразіцеся і да-
паможаце у распаўсюджваньні "Студ.Клічу" так,як гэта робім мы з беларус-
кай прэсай,якая толькі да нас не трапляе.Сталася,аднак,іначай,а таму зваль-
няем Вас ад "пачэснага" /як Вы пішаце,у двукосьсі - дзякуем за ветлівасьць/
абавязку.

——:::X:::——

Ад рэдакцыі: Першы пасьля зьмены назову нумар нашага часопісу
выйшаў пад новым загалоўкам "Студэнцкі Кліч" Нр.1/15 у той час,як апошні
нумар "Крывіцкага Сьветача" быў азначаны Нр.12.
Каб у будучыні ня ўзьнікла пытаньне,дзе-ж падзеліся нумары 13 і 14
нашага часопісу,гэтым выясьняем,што апошняя ўжываная ў "Крывіцкім Сьветачы"
нумарацыя датычыла толькі нумароў нашага часопісу,якія выйшлі пад гэтым
загалоўкам,бяз уліку двох першых нумароў,што мелі назоў "Студэнцкія Вест-
кі".Уважаючы,што цяперашняе выданьне "Студэнцкага Клічу" зьяўляецца пасьля-
доўным працягам выданьня "Студэнцкія Весткі" і "Крывіцкі Сьветач",мы лічы-
лі неабходным увесьці нумарацыю часопісу ад самага пачатку яго[на]га выдавань-
ня незалежна ад ягонага ранейшага назову.Гэтым тлумачыцца,што "Студэнцкі
Кліч" Нр.1/15 азначаны ў дужках цыфраю "15",а ня "13",як здавалася-б.

——:::X:::——

# НОТНЫ КУТОК

Небагатыя і так былі выданьні нотаў беларускіх кампазытараў,ноты
шмат якіх беларускіх [illegible] народных мэлёдыяў наагул існуюць толь-
кі ў рукапіснай форме,старанна перахоўваныя ў сшытках нашых сучасных
кампазытараў,дырыгэнтаў,а часам проста толькі аматараў.
Побач з гэтым,тут на чужыне ўжо цяпер паўстаюць новыя творы ў га-
ліне музыкі.Часам гэта менш ці больш удалыя спробы нашых студэнтаў,спро-
бы выкліканыя ў пэўнай меры жаданьнем папоўніць наш скупы рэпэртуар.
З другога боку,у цяжкіх варунках выгнаньня,мы больш чым на бацьк-
аўшчыне павінны прыдаваць значэньня працы на культурна-нацыянальнай ніве,
каб захаваць сябе ад нацыянальнай сьмерці,якая пагражае нам воддаль ад
нашага народу.
А значыць,усюды там,дзе ёсьць большая група беларусоў,павінна весьці-
ся гэтая праца.Адным з прасьцейшых але і эфэктоўнейшых выяўленьняў яе і
ёсьць хор,бо што-ж,калі ня родная песьня сьпяваная там у беларускай вёс-
ці,столее моцней нас сяньня зьвязаць з гэтай вёскай?
Улічваючы цяжкасьці,які нашыя дырыгэнты напаткаюць у працы з хо-
рам з прычыны недахопу нотнага матар'ялу,мы бяром на сябе сьмеласьць ар-
ганізаваць гэты "Нотны куток",у якім з нумара ў нумар мы будзем зьмяш-
чаць рэдкія сяньня творы нашых беларускіх кампазытараў,а таксама,у меру
магчымасьці,і нованапісаныя музычныя творы.
Засьцерагаемся,што ня робім гэтага для заробкавых мэтаў,а толькі
для добра справы.
Як першы твор зьмяшчаем "Зялён гай" музыка кампазытара А.Грэчанінава.

——:::X:::——

N. Y. P. L.
Research Libraries



## ЗЯЛЕН ГАЙ.

Allegro

Гарм. А. Грэчанінава.

1 Зя - лён гай — пад - мя - цён; зя - лё-на - ю мят - ка-ю
3. Хто-ж да я - - е — пры - ха - дзіў? пры-ха-дзіў ма- лой - чы-чак
5. Як-жа ён ёй — да - ра - ваў ? ой! зні-маў ён ша - пач-ку,

1. мят - - - - - - - - - - ка-ю
3. ма - - - - - - - - лой-чы-чак
5. ша - - - - - - - - - - пач-ку

Fine

дроб-нень-ка -ю рут-ка-ю вы -сып - лён. 2. Хто-ж - - - - пад-мя-
пры-ха-дзіў-ма лой-чы-чак сам а-дзін. 2. Хто-ж - - - - пад-мя-
ды -да на -жак кла-ня-ўся так да-ра- ваў. 4. Што-ж - - - - пры-на-

рут - - - - - - - - - ка-ю 2. Хто-ж я-го пад-мя-
ма - - - - - - - - ло -дзенькі 4. Што-ж ён ёй пры-на-
ды - - - кла-няўся

таў? пад-мя-та- ла дзе-ванька, пад-мя-та - ла мала-да са-ма ад-на.
сіў? пры-на-сіў ча-ра -вічкі пры-на-сіў не -вя -ліч-кі сам адзін.

таў? Дзе - - - - - - -ванька ма - - - - - - - ла -да са-ма ад - на.
сіў? Ча - - - - -ра -вічкі не - - - - - - - вя -лічкі сам адзін.

x x
x

Зялён гай падмяцён; зялёнаю мяткаю, дробненькаю руткаю
высыплён.
Хто-ж яго падмятаў? падмятала дзеванька, падмятала малада
сама адна.
Хто-ж д а не прыхадзіў? прыхадзіў малойчычак прыхадзіў маладзенькі
сам адзін.
Што-ж ён ёй прынасіў? прынасіў чаравічкі, прынасіў невялічкі
сам адзін.
Як-жа ён ёй даравау? ой зьнімаў ён шапачку ды па ножак кланяўся
так даравау!

## З Ь М Е С Т .